беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

НЕЗАЛЕЖНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (39)
1 сакавіка 1996 г.
пятніца

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА
СПОРТ

ВАЦЛАЎ ГАВЭЛ

## ПОСТКАМУНІЗМ



Посткамунізм — цяперашні стан ня толькі краінаў і народаў, але й людзкіх душаў. Прычым гэты настрой "інтэрнацыянальны", гэта значыць аднолькавы што ў Беларусі, што ў Чэхіі, што дзе-небудзь на Кубе. Розьніца хіба ў тым, як людзі ў розных краінах спрабуюць даваць сабе рады з гэтым зусім ня радасным станам душы. У гэтым нумары "НН" друкуюцца фрагмэнты прамовы вядомага эўрапейскага пісьменьніка і мысьляра, прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавэла. Гавэл выступіў з сваімі развагамі летась 30 кастрычніка ў Дрэздэне, дзе ў мясцовай політэхнічнай акадэміі яму быў нададзены тытул доктара honoris causa.

*Чытайце на 3-й старонцы.*

РЭПАРТАЖ

## СУСТРЭНЕМСЯ НА КРУГЛАЙ

Паэт і журналіст Славамір Адамовіч тры месяцы прадаваў незалежную прэсу ў падземным пераходзе на круглай плошчы ў Менску. Па-рознаму ставіліся да яго мінакі. Шмат каго і чаго нагледзеўся ён сам. Шмат чаго даведаўся й перадумаў. З гэтых назіраньняў паўстаў ягоны Практыкум выжываньня ў кантэксьце "рынкавага сацыялізму". Нехта прачытае гэты рэпартаж журналіста як пэўнае кіраўніцтва да дзеяньня, нехта знойдзе ў ім элемэнты аналізу сучаснага беларускага газэтнага бізнэсу, нехта ўбачыць у тэксьце літаратуру...

*Чытайце на 3-й старонцы.*

ГОМЕЛЬ

## ПРЫВАТНАЯ САЦЫЯЛЁГІЯ

Каб неяк разьвеяць аднастайную плынь жыцьця, можна зрабіць многае. Напрыклад, правесьці прыватнае сацыялягічнае апытаньне на тэму: "За што мы любім свой горад?" Адказы будуць самыя розныя або самыя аднолькавыя, але абавязкова дадуць падставу для небанальных думак. Наш карэспандэнт у Гомелі Зьміцер Бартосік апытаў гомельскіх студэнтаў пра іх адносіны да роднага гораду.

*Глядзі старонку 5.*

ПАНАРАМА

## ЗРАЗУМЕЦЬ ДУДАЕВА

Расейскія ваеначальнікі ваююць у Чачэніі не пад сваімі прозьвішчамі, — сьцьвярджае гісторык, сябра агульнарасейскага руху мусульманаў Хаджы Мурат Ібрагімбэйлі. — Гэта тлумачыцца страхам кроўнае помсты...

... Джахар Дудаеў — гэта ня дзікі важак племені чачэнцаў, але прэзыдэнт, абраны сваім народам на дэмакратычных выбарах. Я стараюся зразумець ягоныя дзеяньні.

... Будзёнаўск і Кізьляр для мяне не тэрарыстычныя акты, але акты дывэрсіі ў часе вайны. Гэта вынік няшчасьця, прычынаю якога стаўся напад Расеі на Рэспубліку Ічкерыю 26 лістапада 1994 г.



ФОТА DER SPIEGEL

Цалкам гэтую гутарку, а таксама паведамленьні пад рубрыкамі "Палітыка", "Эўрапейская гаспадарка", "Рэлігія", "Тэатар", "Музыка", "Каляндар",

*— чытайце на старонцы 6.*

АД РЭДАКЦЫІ

***На дзевяностым годзе свайго існаваньня "Наша Ніва" пачынае выходзіць штотыднёва. Як фэнікс з попелу, зь бязладзьдзя нашага часу вырастае "першая беларуская газэта з рысункамі", каб зноў стаць люстэркам жаданьняў і патрэбаў свайго народу.***




Гісторыя гэтага найбуйнейшага ў Беларусі выдавецкага праекту разьвівалася гэтак жа сутаргава, як і гісторыя самой нацыянальнай ідэі ў XX ст. Створаная ў 1906 годзе "Наша Ніва" імкліва стала галоўнай трыбунай усяго беларускага: палітыкі, культуры, навукі. На старонках газэты пачыналі сваё ўзыходжаньне ўсе без вынятку клясыкі тае пары... Спыніўся выхад газэты ў I сусьветную вайну. Першая спроба аднавіць выданьне належыць да 1920 году, калі выйшла ўсяго дзевяць нумароў...

У траўні 1991-га "Наша Ніва" была адноўленая ў Вільні, там дзе яна заўсёды й выходзіла дагэтуль — у радавым гнязьдзе беларускай ідэі, гісторыі й культуры. Тут яшчэ жыў і жыве той беларускі дух, які не зазнаў дэфармацыяў савецкага часу — як гэта адбылося паўсюль у БССР. На працягу пяці апошніх гадоў газэта выходзіла раз на месяц і займалася амаль выключна сьветапоглядам — "прамываньнем мазгоў", пастаноўкай беларускай праблематыкі ў нашым часе. Такая "рэанімацыя" ідэі патрабавала чыстага экспэрыменту, таму не магло быць і гутаркі пра выдавецкі праект як вытворчы самаакупны мэханізм. Перад ініцыятарамі стаяла адна задача — навязацца да абарваных каранёў нацыянальнай традыцыі.

Многія чытачы ўспрынялі адноўленую "НН" як выданьне элітарнае, замкнёнае ў сабе і далёкае ад рэальнага штодзённага жыцьця. Але гэта быў неабходны пэрыяд, безь якога рэдакцыйны калектыў папросту ня змог бы стаць адэкватным вытлумачальнікам таго, што адбываецца ў Бацькаўшчыне. Важна было дайсьці да сутнасьці падзеяў, выходзячы не з агульнага ідэалу, а з канкрэтных нацыянальных інтарэсаў краіны, якая воляю лёсу стала самастойнай дзяржавай.

Беларусь, аднак, ня стала дзяржаваю нацыянальнай. Для калектыву рэдакцыі "НН" гэта быў знак на тое, каб распачынаць новы этап свае працы. У канцы мінулага году рэдакцыя пераехала зь Вільні ў Менск.

Новы этап дыктуе новую форму. Дакладней, сёньня рэдакцыя мае ўжо дастатковую сьветапоглядную базу, каб вярнуцца да канцэпцыі 1910 году — г.зн. да канцэпцыі рэгулярнага тыднёвіка, масавага і самаакупнага, адкрытага да ўсіх тэмаў і праяваў нашага жыцьця. I калі ў папярэднія гады найважнейшай ацэнкай нашае працы была самаацэнка, то цяпер галоўным экзамэнатарам газэты будзе чытач.

Новы этап — рынкавы. "НН" павінна вярнуць сабе колішні вобраз любімай газэты, але не праз спагаду вузкіх колаў нацыянальна ангажаванай публікі, а праз наклад і ўдзел у нашым выданьні рэклямадаўцаў. Выпісвайце "Нашу Ніву", прапануйце нам рэклямны матэрыял і гэтым Вы дапаможаце тыднёвіку на новым этапе ягонага станаўленьня.

Фэнікс адродзіцца з попелу.



БІБЛІЯТКА

## СЛАВЯНСКІ АДДЗЕЛ

... Калі ў 1911 г. новы будынак Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі на скрыжаваньні Пятай авэню й 42 вуліцы адчыніў свае дзьверы для наведнікаў, першым быў чытач Славянскага аддзелу, які 24 траўня ў 9 гадзін 15 хвілін (факт, афіцыйна засьведчаны) увайшоў у пакой на другім паверсе й паставіў подпіс у рэгістрацыйным лістку: Давід Шуб. Ён узяў артыкул прафэсара М.І.Грота "Нравственные идеалы нашего времени. Фридрих Ницше и Лев Толстой". Так Д.Шуб увайшоў у аналы гісторыі амэрыканскай культуры. Інфармацыя, цалкам выпадкова захаваная ў архіве й ня менш выпадкова знойдзеная, паведамляе, што Давід Натанавіч Шуб нарадзіўся ў 1888 годзе ў невялікім мястэчку Паставы каля Вільні...

*Артыкул Лявона Юрэвіча пра беларускую калекцыю Публічнай Бібліятэкі ў Нью-Ёрку - на 11-й стар.*

ЛІТАРАТУРА

## ЗА ШТО АВІН ЗАБІЎ КАВЕЛЯ?

Новае эсэ Ўладзімера Арлова пра аўтобуснае падарожжа з Наваполацку ў Менск... Звычайная дарога, звычайныя людзі вакол, звычайны дзень. Але калі вы маеце здольнасьць зазіраць у рэчы глыбей, параўноўваць і супастаўляць, калі ў вас багатае ўяўленьне і добрая памяць, то банальнае падарожжа ператвараецца для вас у цэлую чараду прыгодаў і згадак, а ўсё, што адбываецца навокал, набывае раптам вялікі й драматычны сэнс...

*Гл. старонку 8.*

СПОРТ

## СІЛА СУПРАЦЬ ІНТУІЦЫІ

У шахматным мачы Гары Каспарава з кампутарам першую партыю чэмпіён сьвету прайграў...

*Падрабязна пра гэта на 12-й стар.*

## інфарматар

**12 газэтных палосаў патрэбнае інфармацыі**

- *Тэлевізійныя праграмы: ад пятніцы да пятніцы.*
- *TV-Sat. Анатацыі вядомых каналаў спадарожнікавага TV.*
- *Радыё: Свабода, Голас Амэрыкі, Францускае, Нямецкая Хваля, Ватыкан, Бі-Бі-Сі, Польскае, 101'2 FM.*
- *Новыя кнігі. Кніга-поштай. Навіны ад беларускіх выдавецтваў.*
- *Кіно, відэа, тэатры, музэі, выставы, канцэрты.*
- *Рынак. Кошты. Тавары.*
- *Біржа працы. Дзясяткі новых вакансіяў.*
- *Транспарт. Расклад руху.*
- *Адукацыя. Паехалі вучыцца за мяжу!*
- *Адпачынак: гульні, тэсты, забавы.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ!**

# Сустрэнемся на Круглай

## (Практыкум выжываньня ў кантэксьце “рынкавага сацыялізму”)

Славамір Адамовіч

Зарабляць на продажы незалежнай прэсы нашы людзі пачалі ў канцы 80-х. На шматлікіх мітынгах той пары пасьпяхова прадаваліся антыкамуністычныя газэты й газэткі – прэса так званага дэмакратычнага кірунку.



К.Стэглік. Эцюд.

### Дзьве лініі ў газэтным бізнэсе

У асяродку газэтчыкаў і сёньня можна пачуць гісторыю пра аднаго менскага прадпрыймальніка, які прадаваў газэту “Свабода”. Тады, у эпоху мітынгаў, гэтае выданьне мела нацыянальна-дэмакратычнае аблічча, але дыстанцыявалася ад Беларускага Народнага Фронту, імкнучыся ня стаць “партыйным органам”. (Газэтам уласьціва супрацьстаўляць партыйнасьць і прафэсіяналізм.) А БНФ у тыя часы, на мяжы 80-х і 90-х, перажываў часы найбольшае славы. Дык вось гэты прадпрыймальнік вырашыў “зьвесьці канцы з канцамі”. Ён набіраў газэт, на першай старонцы якіх было пазначана: кошт 45 кап. і ставіў на гэтым месцы тлустую самаробную пячатку “БНФ 1 руб.” Пасьля гэтага ён раздаваў газэты падлеткам, якія на вакзале прадавалі тысячы асобнікаў за лічаныя гадзіны. Кажуць, у выніку прадпрыймальнік збудаваў сабе дом...

Ня ведаю, колькі прыкладаў такога “прадпрыймальніцтва” ведае найноўшая гісторыя беларускай прэсы, але ўпэўнены, што гэты – не адзіны.

Так было ў самым пачатку, калі ў любой галіне жыцьця тыя, хто “прадпрыймаў”, атрымвалі адразу і шмат. Зь цягам часу бізнэсмэнаў станавілася ўсё болей, аж пакуль продаж газэт ня стаў ператварацца з звышдаходнай акцыі ў штодзённую працу зь сярэднімі, заслужанымі, так бы мовіць, заробкамі.

Восеньню 1995-га, калі друкаваньне незалежных газэт выдаўцы мусілі перанесьці за мяжу, у Вільню, і калі дзяржаўная сыстэма распаўсюджваньня адмовілася браць гэтыя “замежныя” газэты на рэалізацыю, зьявілася патрэба ў стварэньні альтэрнатыўнай сеткі.

Другая лінія – практыка рэалізацыі чыста камэрцыйных выданьняў – таксама бярэ пачатак з памежжа дзесяцігодзьдзяў. Яна ня зьведала перапынку, бо, калі ня стала шматлюдных мітынгаў, а энтузіясты спынілі выданьне антыкамуністычных лісткоў, прадпрыймальныя людзі перайшлі на продаж лісткоў эратычна-дэтэктыўнага жанру. Лісткі гэтыя хутка растаўсьцелі ў штотыднёвікі і цяпер прынасяць добры даход як выдаўцам, так і прадаўцам.

### Канкурэнты блакітных кіёскаў: хто і дзе прадае газэты

Акрамя журналістаў (такіх, напрыклад, як ваш пакорны слуга), продажам пэрыядычных выданьняў сёньня займаюцца жанчыны на пэнсіі і звольненыя працаўнікі дзяржпрадпрыемстваў, студэнты... З латкоў і ў электрычках “чытво” прадаюць групы маладых людзей, для якіх гэты занятак зьяўляецца толькі чарговай прыступкай на шляху да вяршыняў сур’ёзнага бізнэсу. Імкненьне хутка зарабіць, каб пайсьці далей, прымушае іх раўніва ахоўваць “сваю” тэрыторыю. Аднак у канфлікты з прадаўцамі “Свабоды”, “Имя” або “Народнай волі” гандляры камэрцыйнай пэрыёдыкі стараюцца ня ўлазіць. За іх гэта пасьпяхова робіць транспартная і гарадзкая міліцыя.

У сталіцы Беларусі газэты з рук можна набыць на Камароўцы, у падземных пераходах на праспэкце Скарыны, у пераходзе на станцыі мэтро “Інстытут культуры”, а таксама ў мікраёнах гораду, звычайна каля ўнівэрсамаў...

### Хто купляе

“Свабоду”, “Народную волю”, “Имя” і “БДГ” набываюць найперш грамадзяне, настроеныя, мякка кажучы, апазыцыйна да таго рэжыму, які пануе ў краіне. Такіх не спыняюць нават цэны –5-6 тысячаў. Купляюць “варожыя” газэты і грамадзяне, якія падтрымваюць рэжым альбо зьяўляюцца сябрамі антыбеларускіх арганізацыяў і партыяў (“каб ведаць думку апанэнтаў”). Некалькі разоў газэту “Имя” куплялі ў мяне дзявулі-фашысткі з тутэйшага філіялу “Русского Национального Единства”. У адной – значок мадэрнізаванай свастыкі на “груди могучей”. Надпіс на значку – “Русский порядок”... Набывалі газэты і таварыш В.Акулаў, апанэнт БНФ і дэмакратаў, і спадар А.Трусаў, дэмакратаў прадстаўнік.

Некаторыя экзальтаваныя грамадзяне купляюць прынцыпова толькі “Свабоду” й “Народную волю”. А вось “крута прыкінутыя” не купляюць нават “БДГ”. Іх бянтэжаць цэны. І чым даражэйшая на чалавеку вопратка, тым цяжэй яму разьвітацца зь пяцьцю тысячамі “зайчыкаў”.

“Имечко” асаблівай папулярнасьцю карыстаецца сярод студэнтаў і школьнікаў, але чамусьці ня вельмі падабаецца выкладчыкам зь ліку гэбрайскага насельніцтва сталіцы, якія штодня напаўняюць сваёй аўрай наш лінгвістычны ўнівэрсытэт.

### Праца зь людзьмі: асабісты досьвед

Мае першыя спробы прадаваць газэты ў электрычках і ў пераходах на станцыях мэтро “Кастрычніцкая” й “Акадэмія Навук” пацярпелі фіяска. Тады месцам свайго незаконнага гандлю я выбраў Круглую плошчу (афіцыйная назва – пл. Перамогі). І не памыліўся. На Круглай мой бізнэс трываў тры месяцы.

З кастрычніка, пакуль было цёпла, прадаваў газэты “наверсе”, каля пераходу, што насупраць крамы “Хлеб”, на месцы, дзе традыцыйна сустракаюцца заказаныя ды палюбоўнікі. Тутсама наркаманы чакаюць “кур’ераў”, каб набыць у іх “калёсы” ці “салому”.

Само стаяньне на адным месцы – гэта магчымасьць шмат каго бачыць, у тым ліку знаёмых і знакамітых людзей. Вось пісьменьнік Грахоўскі (прайшоў і не заўважыў); а вось старая знаёмая, палітэса Машэрава; вось Дольскі з Дайнэкам прабеглі, апошні зьдзекліва пад’ялдыкнуў: “Апусьціўся ты, апусьціўся”... Гэта ён пра тое, што я газэты прадаю. Вось на нейкую сходку ў Дом літаратара прашыбаваў Станіслаў Шушкевіч...

З надыходам халадоў я перабраўся ў пераход. Стаў каля кніжнай крамкі. Прадаваў галоўным чынам “Имя”, радзей – “Свабоду” і “БДГ”. Час ад часу знаёмыя давалі мне на рэалізацыю спадарожны тавар. Мастак А.Кліпаў прынёс адночы свае знакамітыя паштоўкі “С Новым годом!” (анфас прэзыдэнта ў інтэр’еры а-ля Кустодзіеў).

Працаваць мне падабалася, бо гэта была праца зь людзьмі, і міліцыя не чапала. Побач я меў жвавых суседзяў: “біча” (былы інтэлігентны чалавек) зь дзьвюма вышэйшымі адукацыямі і Афганістанам за плячыма; жабрачак, якія з нажабраванага сплочваюць за свае старэнькія кватэркі; маладую жанчыну мужчынскага складу, што жыве з продажу кветак, якія “экспрапрыюе” пад помнікам Перамогі; ліцэіста Сашу, сына кампазытара Сяргея Дарохіна (Саша прыходзіць падзарабіць ігрою на флейце). Яшчэ адзін музыка – бэльгіец – брынькае на гітары, таксама зарабляе...

Прадаваць “Свабоду” альбо “Имя” – гэта зусім ня тое, што прадаваць, напрыклад, “Частный детектив” – газэту з да роспачы трывіяльным зьместам. Продаж палітычна ангажаванай прэсы – акт найперш палітычны і грамадзянскі. Таму, відаць, так часта асобныя грамадзяне заклікалі мяне прадаваць газэты ледзь не за адпускную цану...

### Незаконны продаж пры надзаконным рэжыме

Каб легальна, законна прадаваць незалежную прэсу, неабходна набыць ліцэнзію на розьнічны гандаль друкаванай прадукцыяй і выкупіць у райвыканкаме адно пэўнае месца на тэрыторыі гораду. Нібыта ўсё проста. Але толькі нібыта. Бо няма мяжы бюракратычнаму свавольству й тым праблемам, якія ўзьнікаюць пры падобнай легалізацыі. Таму, не жадаючы даводзіць сябе да скрайняга стану, нашы грамадзяне й пераважнай большасьці незалежнай прэсай гандлююць без ліцэнзіяў і ў тых месцах, якія яны самі сабе выбіраюць. У краіне, дзе ўся эканоміка ценявая і дзе не працуюць эканамічныя законы, а законы палітычныя парушаюцца самім кіраўніцтвам, такія паводзіны прадаўцоў цяжка назваць незаконнымі.

Зразумела, што продаж газэтаў без дазволу – справа нэрвовая. Але, акрамя маральнага задавальненьня, пра што ўжо сказана, гэтая дзейнасьць прыносіць і рэальны грашовы прыбытак. Трэба толькі выбраць добрае месца, не баяцца міліцыі й акуратна працаваць з публікай, памятаючы пры гэтым, што пэрлы сыпаць ня варта. Не дапаможа.

### Цэны, псыхалёгія, месца і час

Самым прыбытковым у мяне быў месяц сьнежань, калі адпускная цана газэты “Имя” трымалася на ўзроўні адной тысячы беларускіх рублёў. Па выхадзе чарговага нумару я браў сто асобнікаў і на працягу трох-чатырох гадзін за вечар-два прадаваў іх коштам тры тысячы пяцьсот рублёў за асобнік, зарабляючы дзьвесьце пяцьдзесят тысячаў “чыстымі”. У выніку за месяц я атрымаў свой “лімон”. З гэтае сумы пяцьсот тысяч змог пакласьці на рахунак у Ашчадбанку (чаго ніяк не ўдавалася зрабіць, працуючы ў “Настаўніцкай газэце”), а рэшту ахвяраваў на аплату трох месяцаў пражываньня ў інтэрнацкім пакойчыку.

Мушу заўважыць, што, гандлюючы безь ліцэнзіі, вы і толькі вы прызначаеце кошт вашага тавару (у дадзеным выпадку – газэты “Имя”). У сытуацыі з продажам незалежнай прэсы ніхто ня мае права ўпікнуць вас за тое, што прадаяце дорага. Вы можаце сказаць, што гэта існуючы рэжым стварыў такія “няштатныя” абставіны. І будзеце мець рацыю.

Разам з тым, зважаючы на ступень інтэнсыўнасьці продажу, вы можаце ня толькі падвышаць розьнічную цану адноснa гуртовай, але й зьніжаць яе. Калі вы гандлюеце на адным месцы, у вас абавязкова зьявіцца стабільны пакупнік. Прадайце яму сёньня таньней, бо ён *ваш*. Аднак ня варта, бадай, саступаць кліенту выпадковаму, які ўсім сваім выглядам сьведчыць, што ён *можа* купіць за тую цану, якую вы прызначаеце. Ведама, пры гэтым ён будзе сьцьвярджаць адваротнае. Такім чынам, вывучэньне псыхалёгіі пакупніка – абавязковая ўмова пасьпяховасьці вашага бізнэсу.

Найбольш аптымальны час для продажу газэтаў на Круглай – з чатырох да васьмі гадзінаў вечара, калі людзі вяртаюцца з працы і дынаміка жыцьця ў пераходзе значна ўзмацняецца...

Заахвоціць пакупніка, каб той набыў менавіта вашу друкаваную прадукцыю, дастаткова складана. І калі гэта вам удаецца – значыць, вы перамагаеце.

А пачуцьцё радасьці ад таго, што вы нарэшце зарабілі свае грошы, а не атрымалі іх у якасьці падачкі, вы абавязкова адчуеце. Вы станеце паважаць сябе, набудзеце бохан “Нарачанскага” і падзеліцеся хлебам зь “бічом” і жабрачкамі, вашымі калегамі па месцы працы...

Сёньня маё рабочае месца ў пераходзе на Круглай застаецца вакантным. Практыкум скончыўся. І зразумелася галоўнае: нават самы маленькі ўласны бізнэс – гэта шлях да свабоды.

НАША НІВА 1 САКАВІКА 1996 №1(39)

Шахматы: чалавек гуляе з кампутарам

# СІЛА СУПРАЦЬ ІНТУІЦЫІ

**У шахматным мачы Каспарава з кампутарам Deep Blue першую партыю чэмпіён сьвету прайграў. Такое з Каспаравым не здаралася ніколі. Праўда, два гады таму чэмпіён сьвету прайграў кампутару. Але тады была маланкавая партыя ўсяго на 30 хвілін.**

**Мач у Філядэльфіі гуляецца ў нармальных турнірных умовах. Гулец мае на выкананьне першых 40 хадоў дзьве гадзіны, столькісама на наступныя 20 рухаў і паўгадзіны на заканчэньне мачу. Час, ня выкарыстаны ў адным з гэтых этапаў, дадаецца ў наступным.**

**Праціўнікам Каспарава быў вялікі кампутар фірмы IBM, заладаваны праграмай Deep Blue. Праз 37 хадоў Каспараў быў пераможаны. Усяго Каспараў выкарыстаў на развагі 1 гадзіну 55 хвілін, Deep Blue — на 45 хвілін меней. Перад мачам Каспараў не знаёміўся з праграмай кампутара і не захацеў гуляць спробную партыю.**

**Пасьля паразы ён меў выгляд моцна засмучонага чалавека і бяз слоў пакінуў залю, дзе 200 гледачоў назіралі за гульнёю. Дагэтуль Каспараў лічыў, што яшчэ доўга кампутар ня будзе мець шанцаў на перамогу над ім у нармальнай партыі.**

**У другой з заплянаваных партыяў прайграў кампутар. Каспараў ужыў тактыку, якая была заснаваная на ўпартым зьмяшчэньні фігураў на бясьпечныя пазыцыі. Трэцяя партыя, у якой Deep Blue граў белымі, скончылася нічыёй пасьля 39 хадоў.**

**Спэцыялісты шахматных праграм мяркуюць, што праз пяць гадоў кампутары, якія гуляюць у шахматы, будуць абсалютна перамагаць людзей. Суполка інжынэраў IBM з 1988 году працуе над шахматнымі кампутарамі і толькі адзін зь іх гуляе на высокім узроўні. Мач можна было назіраць непасрэдна ў спэцыяльна падрыхтаванай IBM старонцы Інтэрнэту http://www.chess.ibm.park.org.**



Кампутар ня мае праблемаў з гульнёю ў крыжыкі-нулікі. Праграмы, якія гуляюць у шашкі, увогуле перамагаюць сваіх стваральнікаў. Але ж да гэтага часу наймагутнейшыя машыны былі бясьсільныя супраць шахматных грасмайстраў.

Адзін з улюблёных прадметаў дасьледаваньня штучнага інтэлекту -стратэгічныя гульні. Сярод іх - каралеўскія шахматы. Чаму? Таму што шахматы - гульня ані настолькі простая, каб быць задачаю трывіяльнаю, ані занадта складаная, каб цяжка было дасягнуць задавальняльнага вырашэньня - зазначыў яшчэ ў 50-х гадах C.Shanon, стваральнік тэорыі інфармацыі.

## ЯКОЕ ДАЧЫНЕНЬНЕ БАТАНІКА МАЕ ДА ТЭОРЫІ ГУЛЬНЯЎ

Каб апісаць гульні, якія маюць рашэньне (тыя ж крыжыкі-нулікі, шашкі ці шахматы), інфарматыкі карыстаюцца так званымі дрэвамі гульні. Яны крыху нагадваюць свой перагорнуты каранямі дагары батанічны правобраз.

Верхавіна (так званы корань) адпавядае пачатку гульні. Ад яе адыходзіць столькі галінак, колькі розных магчымасьцяў мае пры першым руху першы ўдзельнік гульні. На канцы кожнай з тых галінак знаходзіцца вузел, ад якога зноў адыходзяць галінкі, якія гэтым разам адпавядаюць рухам другога з гульцоў. На чарговых узроўнях дрэва колькасьць галінак-злучальнікаў вельмі хутка ўзрастае. У пэўны момант мы сутыкаемся з вузламі, якія ўжо ня маюць "нашчадкаў". Гэта канец гульні (прайграна, выйграна альбо нічыя).

У такім дрэве кожнае спаборніцтва - гэта адна з сьцежак, якую мы можам правесьці ад кораня праз адзін з вузлоў кожнага ўзроўню, скончыўшы на апошнім. У дрэве шахматаў, такім чынам, магчымыя партыі, якія гуляюцца зь V ст., а таксама тыя, якія, магчыма, будуць згуляныя ў будучыні.

## СУСЬВЕТ ЗАМАЛЫ ДЛЯ ШАХМАТАЎ

Маючы дрэва гульні, мы можам ад рукі накідаць алгарытм праграмы, якая будзе дасканалым гульцом. У любы момант гульні (пасьля ходу праціўніка) дастаткова праглядзець усе магчымыя сьцежкі й выбраць тыя, якія вядуць да перамогі. Ёсьць толькі адна праблема - дрэва сапраўды вялізнае.

Калі партыя распачынаецца, белыя маюць да выбару 20 розных варыянтаў хадоў. Чорныя столькі ж у адказ - такім чынам, мы маем ужо 400 вузлоў толькі па першым ходзе. Лічыцца, што ў любой шахматнай пазыцыі ёсьць да выбару ў сярэднім 35 магчымых хадоў. Колькасьць такіх хадоў (асобна белымі й чорнымі) у рэальнай гульні часта дасягае нават 80-100. Каб быць увогуле дасканалым гульцом, кампутар мусіў бы правяраць 35100 магчымых варыянтаў. Але такое ніколі ня будзе магчымым!

Поўнае дрэва гульні ў шахматы не зьмяшчаецца ані ў памяці ніводнага кампутара, ані на ўсіх калі-небудзь зробленых цьвёрдых дысках.

Узгадаўшы праблему браку памяці, заўважым, што час яе вырашэньня - у будучыні. Што да сучаснага кампутара, які правярае мільёны мільёнаў пазыцый за сэкунду (сёньня Deep Blue павольна набліжаеццада да мільярду), то ён, напэўна, ня скончыць свае апэрацыі да канца сьвету.

## ЯК ГЭТА РОБІЦЦА

Відавочна, каб прыстойна гуляць, ня трэба правяраць усе магчымыя варыянты руху. У рэшце рэшт, ужо колькі гадоў з добрымі шахматыстамі даюць сабе рады праграмы, што наладжаныя нават на сярэднія па складанасьці партыі.

Перавагу ў фігурах фармальна ацаніць вельмі лёгка. Спосаб гэтай ацэнкі дзеці пазнаюць на першых уроках гульні ў шахматы: пешка - адзін пункт, конь і слон па 3, тура - 4,5, фэрзь - 9. Калі белыя маюць каня й слана, а чорныя туру, то белыя маюць відавочную перавагу. Горш з ацэнкаю пазыцыі, але й тут ёсьць пэўныя матэматычныя правілы. Напрыклад, можна падлічыць, колькі клетак атакуе кожная з фігураў і пешак. Атрымаўшы каманду прааналізаваць вынікі сваіх хадоў, кампутар можа спраўдзіць чарговыя магчымасьці і папросту выбіраць найбольш бясьпечныя.

Магчымы таксама разьлік партыі з пасьпяховым раўндам пры аналізе вынікаў верагодных адказаў праціўніка, але толькі на некалькі хадоў наперад. Каб дасьледаваць геамэтрычна ніжэйшыя ўзроўні дрэва гульні, якое разрастаецца, трэба выбраць толькі цікавейшыя варыянты.

## НАСТУПСТВЫ НЯПЭЎНЫХ ВЕДАЎ

Але адкуль кампутар можа ведаць, якія варыянты зьяўляюцца мала прадуктыўнымі? Часта выкарыстоўваюцца разнастайныя чыста практычныя прынцыпы, вядомыя толькі з чалавечага досьведу (эўрыстыкі). У шахматную праграму можна, напрыклад, закласьці, што калі ў атачэньні пешкі апошнім часам нічога не зьмянілася, дык праціўнік ня будзе яе кранаць. Можна таксама прапанаваць, каб не рабіць нічога такога, што магло б паставіць яе ў рызыкоўнае становішча.

Але эўрыстыка падманлівая. Каспараў вельмі хутка робіць высновы з хадоў машыны й знаходзіць, якая верагоднасьць ня ўлічаная праграмай. Знайшоўшы аднойчы тую пешку, ход якой падаецца машыне мала прадуктыўным, Каспараў будзе заўсёды гэтую слабасьць выкарыстоўваць.

Машына мае натуральныя праблемы з гамбітамі. Жывы майстар здольны ахвяраваць каштоўнай фігурай, атрымліваючы ўзамен вельмі "тонкую" й пэрспэктыўную перавагу ў пазыцыі. Хітры плян дазваляе яму за 30 хадоў зрабіць мат. Машына не распазнае "тонкай" перавагі - яна ўспрымае толькі лічбы.

## КАСПАРАЎ ГУЛЯЎ З ДУХАМІ

Стваральнікам шахматных праграм удалося перадаць бяздушным машынам прынамсі частку чалавечага досьведу: пачатку й заканчэньня. Кожны аматар каралеўскай гульні ведае, як зрабіць мат турою й каралём, двумя сланамі й г. д. Калі фігур на шахматнай дошцы застаецца няшмат, правілы робяцца па дзіцячаму простыя. Тады ўдаецца закадзіраваць іх у праграме. Большасьць праграмаў мае цэлыя бібліятэкі такіх канцовак. Падобная сытуацыя з пачаткамі.

Калі ўмовы дазваляюць гэта, добрая праграма забясьпечваецца таксама комплекснай бібліятэкай з усё больш якаснымі партыямі, якія гуляюцца на розных турнірах. Змагаўшыся на мінулым тыдні з Каспаравым, Deep Blue меў доступ да партый, якія граліся ўсімі грасмайстрамі на працягу апошніх ста гадоў!

Калі ў любы момант гульні праграма знаходзіць, што пазыцыя на шахматнай дошцы ўжо некалі зьяўлялася ў нейкім турніры, яна дакладна выконвае ход, які ў падобнай сытуацыі ўжо аднойчы прыводзіў грасмайстра да перамогі. Такім чынам, Каспараў гуляў не "зь бяздушнай машынаю", але "з духамі" сваіх вялікіх папярэднікаў.

## НАЙДУРНЕЙШЫ, АЛЕ НАЙМАГУТНЕЙШЫ

Deep Blue, які гуляе з Каспаравым - гэта спэцыцялізаваны ў шахматных праграмах супэркампутар IBM. Ягонага папярэдніка Deep Thought стварылі людзі з унівэрсітэту Carnegie-Mellon. Яму ўдавалася аналізаваць 750 тыс. хадоў за сэкунду. Ён перамог чэмпіёнку сьвету сярод жанчын вугорку Judith Polgar, але ж супраць Каспарава быў бясьсільны.

Сёньняшні Deep Blue - гэта зьвязаныя паміж сабою 32 вузлавыя комплексы IBM PS, зь якіх кожны складаецца зь сямі працэсараў. 256 працэсараў, працуючы супольна, здольныя на працягу трох хвілінаў (звычайны турнірны тэрмін на адзін ход) прааналізаваць 50 мільярдаў пазыцый.

Вартае ўвагі й тое, што Deep Blue ўвогуле не валодае рафінаванымі эўрыстычнымі прыёмамі. Замяняе іх магутная сіла пераўтварэньняў і велізарныя бібліятэкі. Яго стваральнікі прызналі, што ў сутыкненьнях з Каспаравым нават найлепшыя эўрыстычныя прыёмы аказваюцца недасканалымі. Але яны перакананыя, што чалавечы інтэлект, досьвед і інтуіцыю можна перамагчы сілай. Яны лічаць, што калі нават ня гэтым разам, дык праз годдва Каспараў мусіць адступіць. Тэхналёгія Deep Blue дазваляе лёгка павялічыць магчымасьці машыны на парадак вышэй.

Deep Blue можа здабыць новы досьвед, але нашмат больш прымітыўным спосабам, чым чалавек. Машына па-просту зьмесьціць у памяці чарговую пазыцыю й будзе бачыць, што рабіць, калі зноў зьявіцца такая пазыцыя. Каспараў робіць высновы агульнага характару й выкарыстоўвае іх у не зусім ідэнтычных сытуацыях. Таму не зьдзіўляе перамога Каспарава на другі дзень пасьля паразы. Ён вучыцца, кампутар - толькі запамінае.

Як канчаткова скончацца гонкі чалавека з машынаю - невядома. Але ж мы й самі пра сябе ведаем няшмат. Шахматнымі грасмайстрамі становяцца падлеткі (наймалодшы Peter Leko - 14 год, Judith Polgar - 15). Такім чынам, у лік ідзе не вышэйшая матэматыка, а нейкая таямнічая здольнасьць распазнаваньня кшталтаў і сыстэм.

А можа ўвогуле на гэты турнір мы глядзім неадпаведным чынам? Чалавек стварыў кампутар, каб ён служыў яму, як прылада. Не, не для таго, каб зь ім зраўняўся й яго замяніў, але каб дапоўніў ягоныя магчымасьці. Падумаем пра сілу Каспарава, які карыстаецца Deep Blue.

*GW*



ЛЕПШЫЯ ЗЬ ЛЕПШЫХ

## ТЭНІС

*пазыцыя паводле міжнароднай клясыфікацыі*

**жанчыны**

| | | |
|---|---|---|
| 1(1) | Ш.Граф (Нямеччына) | 312,6 |
| 1(1) | М.Сэлеш (ЗША) | |
| 2(2) | М.Марцінэс (Гішпанія) | 250,6 |
| 3(3) | А.Санчас (Гішпанія) | 217,1 |
| 4(3) | І.Маёлі (Харватыя) | 160,3 |
| 5(5) | А.Хубэр (Нямеччына) | 153,8 |
| 6(7) | М.Малеева (Баўгарыя) | 141,8 |
| 7(6) | Г.Сабаціні (Аргентына) | 135,5 |
| 8(8) | К.Датэ (Японія) | 124,3 |
| 9(9) | Д.Фэрнандэс (ЗША) | 122,4 |
| 10(10) | К.Рубін (ЗША) | 117,4 |

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 29.02.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)